ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 18 (117) 12 – 18 траўня 1995 г. Кошт 300 рублёў

СПАДАРЫНЯ ТАЎЛУЙ РАІЦЬ СЬЛЕДЧЫМ КДБ - ст. 2.

9 ТРАЎНЯ 1995Г. У ГОРАДНІ АДНЫ ГЛЯДЗЕЛІ Ў БУДУЧЫНЮ І ШЛІ НАПЕРАД, А ДРУГІЯ... - ст. 3.

МУЗЫКА АРХІТЭКТУРЫ Ў "МАЛЕНЬКІМ ПАРЫЖЫ" - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

# ГАЛАСУЙЦЕ ЗА КАНДЫДАТАЎ НАРОДНАГА ФРОНТУ!



**МАЛЬЧЫК СЯРГЕЙ СЬЦЯПАНАВІЧ**

Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па Гарадзенскай Горкаўскай выбарчай акрузе N 122.

Нарадзіўся ў 1960 годзе. Дацэнт кафедры паталагічнай фізіялогіі Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

Кандыдат медыцынскіх навук.

Сябра партыі Беларускага Народнага Фронту.

Жанаты. Мае двух сыноў. З 1978г. пражывае ў інтэрнаце медінстытута.



**ЖЫНЬ КАНСТАНЬЦІН УЛАДЗІМІРАВІЧ**

Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па Гарадзенскай Пралетарскай выбарчай акрузе N 124.

Нарадзіўся ў 1947 годзе. Скончыў энергафак Беларускага палітэхнічнага інстытута. Кваліфікацыя - інжынер-электрык.

Начальнік аддзела капітальнага будаўніцтва вытворчага аб'яднаньня "Гродназнерга".

Старшыня Гарадзенскай гарадзкой рады Беларускага Народнага Фронту.

Жонка працуе інжынерам. Дачка - студэнтка.



**ЗАДАЛЯ ВАЛЕРЫ СЬЦЯПАНАВІЧ**

Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па Гарадзенскай Дзяржынскай выбарчай акрузе N 123.

Нарадзіўся ў 1953 годзе. Беларус. Намесьнік старшыні абласнога тэлерадыёаб'яднаньня.

Дэпутат абласнога Савета.

Сябра партыі Беларускага Народнага Фронту.

Скончыў Белдзяржуніверсітэт (1977), Інстытут паліталогіі (1991), Акадэмію кіраваньня пры Савеце Міністраў Беларусі (1994).

Кваліфікацыя - журналіст, палітолаг, эканаміст.

Жонка працуе майстрам у ЖЭСе. Сын - школьнік.



**МАРКЕВІЧ МІКАЛАЙ МІКАЛАЕВІЧ**

Журналіст, рэдактар газэты "ПАГОНЯ", сябра партыі Беларускага Народнага Фронту, Гарадзенская Прынёманская акруга N 125.

Нарадзіўся ў 1962 годзе на Гомельшчыне, у сям'і калгасьнікаў. Беларус. Скончыў Калінінградзкі дзяржаўны універсітэт.

Працаваў у газетах "Высота", "Гродненская правда", "Народная газета".

У 1990 годзе па ініцыятыве працоўнага калектыву аб'яднаньня "Хімвалакно" быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета. Працаваў у камісіях па экалогіі і сродках масавай інфармацыі.

Сябра Саюза журналістаў. Жанаты, мае трох дзяцей.

Неўзабаве мы прыйдзем на выбарчыя ўчасткі, каб прыняць удзел у галасаваньні. Якім будзе наша рашэньне, такім і жыцьцё, магчыма, у бліжэйшыя пяць гадоў. Калі ня зьменіцца палітычная кан'юнктура. Ці калі станоўчыя вынікі рэферэндуму не дазволяць прэзідэнту распускаць парламант па свайму жаданьню.

Каму аддаць перавагу? З якой партыяй ці рухам зьвязаць надзею на паляпшэньне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне? Ці ўвогуле паверыць беспартыйным. Яны ж незалежныя, у крайнім выпадку хочуць такімі быць. Выбаршчыкі на раздарожжы...

Між тым, аналіз стану спраў хаця б у Горадні прымушае задумацца. Агульны спад вытворчасьці працягваецца. Паводле эканамічных паказчыкаў работы прамысловасьці Гарадзеншчыны за студзень-сакавік гэтага года радзеюць працоўныя калектывы. За азначаны перыяд толькі ў Ленінскім раёне абласнога цэтра страціла работу 2.103 чалавека. У Кастрычніцкім раёне Горадні - 885 асобаў займелі статус беспрацоўных. Паўсюдна скарачаецца выпуск тавараў народнага спажываньня, акрамя віна-гарэлачных вырабаў. П'е грамадзтва ад беспрасьветнага жыцьця, бязвер'я, нэндзы, страты звычайных арыенціраў, магчымасьці паўплываць на сітуацыю.

Такая нагода зьявілася - выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі. Надзвычай цяжка прымусіць сябе ісьці галасаваць, кагосьці выбіраць. Што зьменіцца? Ці можна наогул нешта зрушыць з месца? Здавалася б, прыйшоў прэзідэнт, наабяцаў злодзеяў пералавіць і пасадзіць, прывесьці да ўлады новых разумных людзей, даць работу, запусьціць прадпрыемствы, паклапаціцца пра пеньсіянераў, студэнтаў... Ды што ён толькі не абяцаў!

Час пераканаў самых верных прыхільнікаў Аляксандра Лукашэнкі, што кароль - голы, што ён - звычайны папуліст, хуткі на абяцанкі, але марудлівы ў іх выкананьні. Антыкрызісная праграма так і засталася папераю. Зьнешні доўг краіны складае 3,5 трыльёны беларускіх рублёў. Інфляцыя ў сакавіку трымалася на ўзроўні 20 працэнтаў, у той час, калі ў Летуве - 1,4 працэнта, Латвіі - 1,6, Эстоніі - 2,6. Па тэмпах росту ўнутранага валавога прадукта Беларусь трывала прапісалася на апошнім месцы сярод Усходнеэўрапейскіх краін, прапусьціўшы наперад Украіну.

Іншая справа - Венгрыя, Польшча, Славакія, Чэхія. Хаця стартавыя ўмовы былі амаль аднолькавымі. Пакуль урад Кебіча хваліўся танным коштам беларускіх тавараў, суседзі рашуча пераходзілі на рынкавыя адносіны з сацыяльнымі гарантыямі. Займаліся прыватызацыяй дзяржаўнага сектара эканомікі. Прыватны сектар Летувы летась складаў 55 працэнтаў, Польшчы - 56, Чэхіі - 93 працэнты. Пра замежныя інвестыцыі і казаць не трэба. Беларусь займае 138 месца ў сьвеце па надзейнасьці ўкладаў капіталу. Хто будзе рызыкаваць?

Эканамічныя выкладкі можна працягваць, і ўсе яны не на карысьць цяперашнім менскім уладам, якія наўмысна стрымліваюць хаду наперад. Напрыклад, 61,8 працэнтаў гарадзенцаў добра ставяцца да прыватызацыі гандлю, прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня і бытавога абслугоўваньня. 55 працэнтаў жыхароў Горадні хацелі б працаваць на прыватызаваных ці недзяржаўных прадпрыемствах. Толькі дзе тыя прадпрыемствы? Лепш адпусьціць людзей у неаплочваемы адпачынак, чым паплаціцца прынцыпамі сацыялістычнай роўнасьці. Так і жывем.

Напачатку года ў Горадні сацыёлагі праводзілі апытаньне. Атрымалі цікавыя вынікі. 77 працэнтаў прызналіся, што жыцьцё за паўгады пагоршылася. 87,7 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што ў горадзе моцна пусьціла карані карупцыя. Але 50,8 працэнтаў тых жа апытаных пагаджаюцца цярпліва чакаць лепшага, калі сітуацыя пагоршыцца. Вось такі ён, грамадзянін Беларусі, будзе чакаць, а не шукаць шляхоў да паляпшэньня сваёй долі.

І шанц рэальна паўплываць на маючыя адбыцца зьмены зьявіўся. Трэба толькі падтрымаць кандыдатаў ад Народнага Фронту, накіраваць іх у Вярхоўны Савет. Выдатная эканамічная праграма Беларускага Народнага Фронту дазволіць вельмі хутка пераканацца ў правільнасьці выбару. Але такі вынік зусім не адпавядае задумам кабінетных функцыянераў, "прыхватызатараў", чыноўнікаў-катэджнікаў, карумпаванай вярхушцы ўлады, былой партнаменклатуры, якая няблага ўладкавалася пры новым гаспадары, нават ня страціла пасады, займела мільённыя аклады.

Няўжо просты рабацяга далучыць свой голас супраць кандыдатаў ад Народнага Фронту, падтрымае тых, хто дзесяцігоддзямі сядзіць на шыі працоўнага люду, прыгожа гаворыць і пры гэтым не нясе аніякай адказнасьці за лёс змарнаванага народа? Хто ж сваімі рукамі выконвае над сабой прысуд!

Пасьля выбараў будзе позна кідацца ў роспачы. Лепш запытаць сваё сумленьне і зрабіць верны крок ужо зараз. Клопаты пра свой лёс і лёс сваіх дзяцей і ўнукаў падказваюць: на сёньня толькі Беларускі Народны Фронт у стане павесьці грамадзтва за сабой, ажыцьцявіць спадзяваньні на прыстойнае жыцьцё ў вольнай краіне вольнага грамадзяніна.

Дык Вы зрабілі свой выбар?

Ідзіце і галасуйце!

# ВАШ ВЫБАР – ВАША БУДУЧЫНЯ!







## «РАЗАМ З ПАПЛЕЧНІКАМІ, Я ЖАДАЮ АЖЫЦЬЦЯВІЦЬ ВЯЛІКІЯ ІДЭІ БНФ»



**СТАНІСЛАЎ СУДНІК - кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па Лідзкай Камсамольскай выбарчай акрузе N 134.**

**Старшыня Лідзкай гарадзкой рады БНФ "Адраджэньне". Працуе ўласным карэспандэнтам газеты "Пагоня" на лідчыне.**

**- Станіслаў, падчас вядомых падзей у Менску 12 красавіка давялося сустракацца з сябрамі Лідзкай арганізацыі БНФ. Яны з занепакоенасьцю казалі пра твой незвычайна аптымістычны настрой у гэтыя дні?**

- Гэта ў некаторай ступені сапраўды так. Няма вялікіх падстаў для аптымізму, але і падаць духам не з рукі. Што ў рэшце-рэшт адбылося? Пабілі дэпутатаў? Але нас б'юць ужо не адно стагоддзе і ня проста б'юць, а вынішчаюць фізічна і духоўна. Тым ня менш, мы жывыя. Нас ня выбілі расейскія цары, ня выразаў Сталін, ня выпаліў Гітлер, ня справіцца і Лукашэнка.

**- Але ж наўзамен нават ілюзорнай дэмакратыі ствараецца нешта страшнае?**

- А ці была тая дэмакратыя? Была бюракратыя, была партакратыя, але дэмакратыі на Беларусі яшчэ не было. У нас актыўна ствараецца паліцэйская дзяржава.

**- Станіслаў, сказанае табой, наменклатура жадае ўмацаваць праз усенародны рэферэндум?**

- Нават, калі дапусьціць найгоршы варыянт, што беларусы прагаласуюць за ўсё, што прапануе Лукашэнка, то і гэта яшчэ не канец Беларусі.

200 гадоў русіфікавалі Беларусь, 200 гадоў зьнішчалі беларускую мову і ня зьнішчылі. Ня зьнішчаць і зараз. Беларуская мова прайшла ўжо ніжні пункт сваёй траекторыі. Адраджэньне нацыянальнай сьвядомасьці пайшло ўверх, і ні Лукашэнка, ні ўся яго зграя гэтага руху ўжо ня спыняць.

Могуць зьмяніць сымболіку. Адмяніць - не. Нельга адмяніць гісторыю народа. Яна была. Нельга адмяніць Пагоню - яна была, ёсьць і будзе. Магчыма, Лукашэнка і зможа на некаторы час зрабіць Пагоню неафіцыйным гербам і ня больш таго. Ад таго, што Пагоня Максіма Багдановіча - неафіцыйны гімн Беларусі, - горшай яна ня стала. Усё, што робіць купка ветэранаў, якім патурае прэзідэнт, - гэта агонія расейскага шавінізму на Беларусі, агонія перад сьмерцю. Прэзідэнт увесь час хваліцца, што яго падтрымлівае народ? Лукашэнку можа падтрымліваць насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Народ яго не падтрымае, бо гэтага народа яшчэ на Беларусі няма. Лукашэнка - добры "настаўнік". Холадам і голадам, галечаю і нястачаю ён зробіць з насельніцтва народ. А народ зробіць усё астатняе.

**- Станіслаў, дзеля чаго ты хочаш быць дэпутатам Вярхоўнага Савету?**

- Я імкнуся да таго, каб разам з паплечнікамі па Беларускаму Народнаму Фронту ажыцьцявіць вялікія ідэі БНФ: зрабіць Беларусь сапраўды самастойнай і багатай краінай, а беларусаў - вольнымі і заможнымі людзьмі.

Беларусы маюць права на годнае жыцьцё і, калі БНФ возьме большасьць у Вярхоўным Савеце, яны гэтае жыцьцё атрымаюць.

**- Ці можаш ты спрагназаваць вынікі выбараў?**

- Вынікі выбараў? Не. Але ў тым, што Гарадзеншчына скажа "НЕ" па ўсіх чатырох пытаньнях рэферэндуму - ведаю дакладна.

**Распытваў Г.С.**

## СПАДАРЫНЯ ТАЎЛУЙ РАІЦЬ СЬЛЕДЧЫМ КДБ

Некалькі дзён запар Наваградак цалкам узбуджаны. У раёне аўтавакзалу на добраякаснай паперы і з высокім узроўнем друку невядомымі расклейваюцца ўлёткі, у якіх высьмейваецца першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка. Мясцовае аддзяленьне КДБ сумесна з міліцыянтамі вядуць пошук зламысьнікаў. На днях у адпаведную ўстанову была выклікана і старшыня Навагрвдзкай рады Беларускага Народнага Фронту Галіна Таўлуй. Спадарыня Таўлуй абвергла ўсе абвінавачваньні сьледчага КДБ аб прыналежнасьці сяброў Навагрвдзкай суполкі да гэтай бруднай справы і параіла сьледчым найперш знайсьці тую друкарню, дзе ўлёткі з абражальным тэкстам пра прэзідэнта былі надрукаваны.

**Г.Д.**

## КІРАЎНІК НАЦБАНКА ЗЬБІРАЕЦЦА ЗЬНІЖАЦЬ КУРС ДОЛАРА

Старшыня праўленьня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч правёў прэс-канферэнцыю, на якой абверг інфармацыю аб сваёй адстаўцы. Ён заявіў, што ў мэтах садзеяньня экспарту з Беларусі Нацбанк мае намер зьніжаць курс долара, але ня больш 9 працэнтаў у месяц.

С.Багданкевіч паведаміў, што праўленьне Нацбанка пагадзілася з прапановамі Кабінета Міністраў па зьніжэньню стаўкі рэфінансаваньня з 25 да 15 працэнтаў у месяц. На прэс-канферэнцыі было таксама заяўлена, што ўрад прыняў рашэньне аб павялічэньні тарыфаў на жыльлёва-камунальныя паслугі.

Каментуючы інфармацыю аб магчымай нацыяналізацыі камерцыйных банкаў, спадар Багданкевіч заявіў, што ён выступае супраць "гэтага бяздумнага і ні да чаго не вядучага кроку". Адказваючы на пытаньне, ці атрыманы абяцаны Расеяй крэдыт ў 150 млрд.рублёў, кіраўнік Нацбанка адказаў: "Будзем спадзявацца, што гэта калі-небудзь адбудзецца".

## ПЫТАНЬНЕ АКЦЫЯНІРАВАНЬНЯ БУДЗЕ РАЗГЛЯДАЦЦА

Як стала вядома, пры Кабінеце Міністраў Беларусі сумесна з расейскай кампаніяй "Славнефть" створана рабочая група, якая будзе разглядаць пытаньне акцыяніраваньня беларускіх прадпрыемстваў у лік пагашэньня доўга за імпартуемую ў рэспубліку нафту.

Гадавы аб'ём пастаўкі кампаніі на Беларусь складае 3 мільёны тон нафты, што складае 37 працэнтаў ад агульнай колькасьці нафты, якая паступае ў рэспубліку.

**СІМ**

## РЭФЕРЭНДУМ – ЧАРГОВЫ КРОК ДА СТРАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**У шчырасьці і дэмакратычнасьці А.Лукашэнкі можна было ўсумніцца яшчэ падчас яго перадвыбарчай кампаніі ў прэзідэнты. Ужо тады, шмат абяцаючы, на вострыя палітычныя пытаньні ён адказваў нетактоўна і не заўсёды прафесійна.**

**Сваімі адносінамі да рэферэндуму прэзідэнт паказаў: чые інтарэсы ён абараняе, якую ідэалогію спавядае. Гэтага і трэба было чакаць, калі ўспомніць, што ён доўгі час пасьля зьмены сымболікі працягваў насіць значок дэпутата БССР.**

Усе памятаюць, што адбылося ў мінулым: Апазіцыя, бачачы імкненьні пракамуністычнай большасьці Вярхоўнага Савета на чале з Дземяньцеям павярнуць да старога, патрабавала рэферэндума, а неабходная па закону колькасьць людзей падтрымала гэтую ідэю. Камуністычная большасьць Вярхоўнага Савета тады правіліла рэферэндум, бо разумела, што "рэвалюцыйная сітуацыя" не на яе карысьць і пройгрыш відавочны. Цяпер, калі яе ж рукамі народ даведзены да галечы, а ўсё ўдалося зваліць на якіхсьці міфічных дэмакратаў, хаця ні Дземяньцей, ні Кебіч да іх адносін ня маюць. Уладу трымаючыя ў мінулым, якія рэальна яе і захавалі, вырашылі, што настаў іх "зорны час", каб у чарговы раз падмануць народ.

Прэзідэнт са сваёй камандай увесь час выступае за мір і згоду, але няўжо яны, ладзячы фарысейскую гульню з рэферэндумам, не разумелі, што гэта ўзбударажыць грамадзтва, узмацніць канфрантацыю і прывядзе да расколу народа. Але былая партнаменклатура ня ўмее інакш. Сам рэферэндум спрабуюць правесьці ня толькі насуперак усялякаму здароваму сэнсу, але і канонам правядзеньня такіх мерапрыемстваў, бо правядзеньне рэферэндума і выбараў адначасова задумалі, каб ажыцьцявіць сваіе палітычныя мэты. Прэзідэнт сьцьвярджае, "не надо этих политических гульней". Згодны, ня трэба. Але плануемы рэферэндум - самая сапраўдная палітычная гульня, мэта якой - адцягнуць народ ад надзённых праблем. Несумленна і нават злачынна займацца палітычнымі гульнямі ў той час, калі ў першую чаргу неабходна ратаваць эканоміку, змагацца са злачыннасьцю.

Рэферэндум - небясьпечная, двухбакававострая зброя. Важна, хто праводзіць яго. Калі рэферэндум праводзіцца "партыяй улады", то ён ставіць ў першую чаргу на мэце як мага дольш утрымацца ў крэсьле, даказаць сваю правату, абараніць інтарэсы свайго клана. Інтарэсы народа ўлічваюцца мала і ніколі не бываюць галоўнымі. Праведзены сумесна з выбарамі рэферэндум ня можа адлюстраваць сапраўдную думку народа. Бо да выбараў з масай кандыдатаў і лавінай іх агітацыйных заклікаў дадаецца яшчэ чатыры пытаньні рэферэндума, зручна сфармуляваных для зацікаўленага боку. Але, як вядома, каб атрымаць найбольш дакладныя дадзеныя, колькасьць пытаньняў павінна быць мінімальнай (1-2), з дакладна сфармуляванымі, у залежнасьці ад мэты зразумелымі, не даючымі магчымасьці падвойчага тлумачэньня.

У залежнасьці ад мэты, якую спрабуюць дасягнуць тыя, што ладзяць рэферэндум, на адно і тое ж пытаньне можна атрымаць супрацьлеглыя адказы. Для гэтага варта толькі паставіць пытаньне глабальна, не раскрываючы тых вынікаў, якія могуць наступіць пазьней. Менавіта гэта і жадае выкарыстаць наменклатура, каб увесьці ў зман народ Беларусі. Калі паставіць пытаньне так: "Ці жадаеце Вы вайсковага саюза з Расеяй?" - будзе адзін адказ. Але калі яго расшыфраваць і паставіць так: "Ці жадаеце Вы вайсковага саюза з Расеяй і, каб нашы хлопцы гінулі ў Таджыкістане ці чарговай Чачні?" ці: "Ці жадаеце Вы вайсковага саюзу з Расеяй, каб Беларусь стала першай мішэньню і закладніцай дзеля інтарэсаў Расеі?" - ён будзе зусім супрацьлеглы.

На двухмоўі варта спыніцца асобна, бо беларуская мова, дзяржаўная, ігнаруецца прэзідэнтам і многімі ўладнымі. Але ж, менавіта беларускую мову трэба тэрмінова ратаваць. Калі будзе ўзаконенае праз рэферэндум двухмоўе, то гэта прывядзе да канчатковай русіфікацыі краіны, страты ёю сваёй самабытнай нацыянальнай культуры і дзяржаўнасьці. Бо толькі нацыянальныя традыцыі дазволілі тым жа балгарам выстаяць супраць шматвекавога асманскаага іга і гвалтоўнай асіміляцыі туркамі.

.Пытаньне сымболікі выключна ідэалагічнае. Яно інсьпіруецца сіламі, якія прагнуць рэваншу за сваё паражэньне, якія пад чырвоным сьцягам вялі нас у камуністычны рай - гэта так відавочна.

Толькі незразумела, чаму сымболіка бальшавікоў-ленінцаў 1917 года павінна мець перавагу перад шматвекавой сымболікай гэтага краю. А дыскутаваць аб тым, пад якім сьцягам адбывалася больш зла, - блюзьнерства: бо пад чырвоным сьцягам, без сумніву, загублена больш за ўсё ні ў чым не вінаватага ўласнага народа.

Прэзідэнт так выступае за крыштальную чысьціню і сумленнасьць сваёй каманды - цудоўна. Гэта не перашкаджала бы пацьвердзіць справай. Набрацца мужнасьці і ўнесьці яшчэ адно пытаньне ў рэферэндум: "Ці давяраеце Вы прэзідэнту і яго каманьдзе?". Акрамя таго, правядзеньне рэферэндума ў дзень выбараў - гэта свайго рода агітацыя за кандыдатаў у дэпутаты гэтай жа арыентацыі.

Згодны: гісторыя, на якую так спасылаецца прэзідэнт, сапраўды рассудзіць і ўсё расставіць па сваіх месцах, але гэта будзе пасьля. Цяпер тым, хто ня хоча і далей мыкацца па задворках цывілізацыі, праклінаючы сваё гаротнае жыцьцё, а жыць у незалежнай дзяржаве, той павінен праявіць грамадзянскую мужнасьць, паказаць палітычную сталасьць і сказаць "не" усяму таму, што вядзе да русіфікацыі краіны, зьнішчэньню беларускай нацыянальнай культуры, дзеля жаданьня прабальшавісцкай партнаменклатуры.

**Аляксандр ШАЎЧУК.**

**РЭФЕРЭНДУМ ПА ЛУКАШЭНКУ ВЫГЛЯДАЕ ТАК:**

| | | |
|---|---|---|
| **1. Ці згодны Вы зьнішчыць беларускую мову як падставу дзяржаўнасьці** | ~~ТАК~~ | НЕ |
| **2. Ці згодны Вы зьнішчыць спрадвечныя сімвалы беларусаў** | ~~ТАК~~ | НЕ |
| **3. Ці згодны Вы адгарадзіцца жалезнаю сьценаю ад усяго сьвету акрамя Расеі** | ~~ТАК~~ | НЕ |
| **4. Ці даручаеце Вы Лукашэнку зьнішчыць беларускую дзяржаву і ўстанавіць таталітарны рэжым** | ~~ТАК~~ | НЕ |

**КАЛІ ВЫ АДКАЖАЦЕ НА КРЫВАДУШНА СФАРМУЛЯВАНЫЯ ПЫТАНЬНІ РЭФЕРЭНДУМА «ТАК», ТО:**

1. Нашы хлопцы пойдуць паміраць за інтарэсы расейскай імперыі.
2. Нас чакае лёс самай беднай краіны Эўропы або Паўночнай Карэі ці Кубы.
3. З нас будзе сьмяяцца ўвесь сьвет.
4. Мы так і ня зможам стаць народам, бо нас зробяць быдлам, якое можна заганяць у любы хлеў.





## ГРАМАДЗТВА

## ПАРТЫЗАН АБВІНАВАЦІЎ В.БЫКАВА І ЗАКЛІКАЎ БЕЛАРУСАЎ АДЦУРАЦЦА ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

**Агрэсіўныя, з медалямі, што сьведчаць пераважна пра разнастайныя юбілеі, а не ваенныя заслугі, гарадзенскія ветэраны гуртаваліся ў лагеры камуністых на вуліцы Савецкай. Той-сёй з сівагаловых дзядуляў ці бабулек, убачыўшы бел-чырвона-белыя сьцягі і герб Пагоню, пад якімі станавіліся ў шыхт сябры Беларускага Народнага Фронту, невытрымлівалі, выбягалі на вуліцу, каб сарваць сваю злосьць да гісторыі Бацькаўшчыны ў кароткіх выкрыках накшталт: фашысты, Пазьняк, нацыяналісты. Шыхт сяброў Беларускага Народнага Фронту пад сьвятымі сымбалямі продкаў рушыў у кірунку Старога парку, а "пераможцы" пайшлі на Савецкі пляц Горадні.**

На пляцы іх сабралася ня так шмат, можа 150-200 чалавек, каб адзначыць 50-я ўгодкі перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне над гітлераўскай Германіяй. Так, менавіта ў Вялікай Айчыннай вайне, а не ў Другой Сусьветнай, бо так хочацца нашым ветэранам. Ім не патрэбны гістарычныя факты, людзі, ім патрэбна асобная перамога, адна на ўсіх, як пяецца ў песьне.

Потым было маўклівае шэсьце пад чырвонымі бээсэсэраўскімі штандарамі. Шчырае, цёплае прывітальнае выступленьне перад ветэранамі на брацкай магіле ў Старым парку зрабіў мэр Горадні Генрых Крупенка. Разнагалосьсе, віншаваньні дзетак, артыстаў, сьпевакоў. Добры , пагодны настрой сапсаваў нейкі партызан, па паходжаньню з Мардовіі. Гэты былы лясны ваяка абвінаваціў, чамусьці, ва ўсіх недарэчнасьцях сёньняшняга жыцьця Народнага пісьменьніка Рэспублікі Беларусь Васіля Быкава. Яму , наезжаму, непатрэбны ні герб Пагоня, ні бел-чырвона-белы сьцяг, супраць якога ён выступіў. Адным словам, сапраўднага сьвята не атрымалася. Верагодна таму, што на нашай зямлі ёсьць такія вось "партызаны". Быў яшчэ салют, быў невялікі вайсковы парад на Ленінскім пляцы. Была прыстойная калона пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, над якой лунала своеасаблівая аўра любові да сваёй зямлі, сваёй гісторыі.

**Г.КАНСТАНЬЦІНОВІЧ.**



**9 ТРАЎНЯ 1995г. У ГОРАДНІ АДНЫ ГЛЯДЗЕЛІ Ў БУДУЧЫНЮ І ШЛІ НАПЕРАД, А ДРУГІЯ...**

**Фатаграфаваў: А.АСТРОЎСКІ.**

## А МУС СУПРАЦЬ

У Савеце Бясьпекі падрыхтаваны праект Указа прэзідэнта аб галоўным упраўленьні падаткавых рассьледаваньняў. Згодна гэтаму дакументу, мяркуецца вывесьці ўпраўленьне падаткавых рассьледаваньяў са складу падаткавай інсьпекцыі і перападпарадкаваць Мінфіну.

У праекце прадугледжана павялічэньне ў бягучым годзе колькасьці супрацоўнікаў упраўленьня на 600 чалавек. Яно займаецца прадухіленьнем, высьвятленьнем і раскрыцьцём злачынстваў у сьферы падаткавага заканадаўства, выкараненьнем карупцыі ў падаткаведамстве. У выпадку, калі прэзідэнт падпіша гэты праект указа, на аплату рэфармаванага падразьдзяленьня ў бягучым годзе давядзецца выдзяліць з бюджэта 25 мільярдаў 812 мільёнаў рублёў. У дадатак да гэтых сродкаў, мяркуецца пакідаць у распараджэньні галоўнага ўпраўленьня частку адабраных у неплацельшчыкаў падаткаў сродкаў. Акрамя таго, плануецца павялічыць на 113 машын аўтапарк упраўленьня. У гэтым жа праекце гаворыцца, што Міністэрства фінансаў да 1 верасьня бягучага года павінна распрацаваць праект закона "Аб фінансавай палітыцы". Таму цалкам верагодна, што ў рэспубліцы зьявіцца фінансавая паліцыя.

Аднак Міністэрства ўнутраных спраў краіны катэгарычна супраць наданьня галоўнаму ўпраўленьню падаткавых рассьледаваньняў статуса самастойнага дэпартамента і захаваньня за яго супрацоўнікамі ўсіх міліцэйскіх ільгот.

На думку кіраўніцтва МУС, з функцыямі ўпраўленьня падаткавых рассьледаваньняў пасьпяхова справяцца існуючыя падразьдзяленьні па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і выдзяляць з мізэрнага бюджэту краіны дзесяткі мільярдаў рублёў на ўзмацненьне ўпраўленьня падаткавых рассьледаваньняў немэтазгодна.

## У САЛІГОРСКУ БАСТУЮЦЬ ПЕДАГОГІ

4 траўня з 8 гадзін раніцы пачалі забастоўку настаўнікі сярэдняй школы N 3 Салігорска. Асноўнай прычынай правядзеньня гэтай акцыі пратэсту стала нізкая заработная плата педагогаў.

Настаўнікі 3-й сярэдняй школы зьвярнуліся з заклікам да ўсіх педагогаў школ горада падтрымаць забастоўку.

На пашыраным пленуме гаркама прафсаюзаў, які адбыўся раней, было вырашана не ўступаць у бестэрміновую забастоўку, бо шэраг пытаньняў удалося вырашыць на мясцовым узроўні. У прыватнасьці, вырашана пытаньне аплаты працы ведамасных інтэрнатаў, выдачы ільготных выплат і дапамог, у стадыі вырашэньня і пытаньне выплаты дапамогі да адпачынку, а таксама будаўніцтва жыльля для педагогаў за кошт дзяржаўных капіталукладаньняў.

Каментуючы сітуацыю, старшыня гаркама прафсаюзаў работнікаў адукацыі Л.Ларчык сказала, што ў горадзе сярод педагогаў захоўваецца перадзабастовачны стан і працягнецца ён да першага верасьня ў сувязі з тым, каб пракантраляваць выкананьне рашэньняў і патрабаваньняў, выдвінутых педагогамі.

Аднак калектыў сярэдняй школы N 3 вырашыў пачаць забастоўку. Бастуючых падтрымалі настаўнікі 4-й сярэдняй школы горада.

## АЎКЦЫЁНЫ Ў БЕРАСЬЦІ І ГОМЕЛІ ПРАЙШЛІ БЕЗПАСЬПЯХОВА

На чарговым, 12-ым аўкцыёне, які прайшоў у Берасьці, з 18 лотаў быў прададзены толькі адзін - памяшканьне крамы "Кніга - поштай".

У Гомелі на дзесятых аўкцыённых таргах па продажу гарадзкой камунальнай уласнасьці з шасьці выстаўленых аб'ектаў было прададзена толькі два.

Па ацэнках назіральнікаў, прычынай такой сітуацыі зьяўляецца непасьлядоўная палітыка ўлад у сьферы прыватызацыі і агульнае нестабільнае палітычнае і эканамічнае становішча ў рэспубліцы.

## БЕРАСЬЦЕЙСКІМ БАНКАМ ПРАПАНАВАНА АБ'ЯДНОЎВАЦЦА

Берасьцейскі аблвыканкам прыняў рашэньне рэкамендаваць заснавальнікам акцыянерных камерцыйных банкаў "Брэсткамбанк" і "Весткамбанк" разгледзець пытаньне аб іх аб'яднаньні ў адну структуру. Улады матывавалі гэтае рашэньне неабходнасьцю нарошчваньня статутнага фонду, узмацненьня ліквіднасьці і надзейнасьці банкаў.

Новы начальнік галоўнага ўпраўленьня нацыянальнага банка па Берасьцейскай вобласьці (экс-старшыня праўленьня"Брэсткамбанка") узначаліў каардынацыйны савет, які будзе займацца выпрацоўкай агульных падыходаў у правядзеньні крэдытна-грашовай палітыкі ў Берасьцейскай вобласьці.

**СІМ**



## 180 ГРАМАЎ ХЛЕБА НА ДЗЕНЬ

Па выніках праверкі інсьпекцыі рабочага кантролю магілёўскага абласнога прафсаюза стала вядома, што ў Магілёўскім шпіталі інвалідаў вайны пацыенты атрымліваюць толькі 180 грамаў хлеба на дзень. Акрамя таго, ветэраны не атрымліваюць працяглы час патрэбнай колькасьці іншых прадуктаў харчаваньня. Матэрыялы праверкі пададзены ў пракуратуру.

## ЗА ПРАЕЗД ДАВЯДЗЕЦЦА ПЛАЦІЦЬ НАЯЎНЫМІ

Рашэньнем мясцовых улад Магілёва з 1 траўня адмяняецца хаджэньне аўтобуснатралейбусных талонаў. Разьлік пасажыраў будзе ажыцьцяўляцца наяўнымі грашыма з кандуктарамі-кантралёрамі. Такі крок тлумачыцца тым, што ў горадзе за апошні месяц была выяўлена вялікая колькасьць падробленых праяздных дакумантаў. Да таго ж, кандуктары дапамогуць гарадзкому транспарту цалкам акупляць сябе.

## ДАРАДЦА ПРЭЗІДЭНТА БЫЎ НА ДНІ НАРАДЖЭНЬНЯ ЖЫРЫНОЎСКАГА

У сьвяткаваньні 49-годдзя У.Жырыноўскага прынялі ўдзел дзевяць прадстаўнікоў беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

Дзень нараджэньня лідэра расейскіх ліберал-дэмакратаў праходзіў у гатэлі "Расія", у фуршэтных залах сабралася каля 1200 чалавек. Беларускія ліберал-дэмакраты спрэзэнтавалі У.Жырыноўскаму разны кухонны набор ручной працы, выраблены ў Берасьці, бутэль "Белавежскай" і рог для піцьця. Для яго ў гэты вечар сьпявалі Ю.Антонаў, В.Талкунова, Н.Чапрага і іншыя эстрадныя славутнасьці. Сярод гасьцей былі паслы некаторых краін, у прыватнасьці Ірака і Лівіі, а таксама С.Посахаў, дарадца прэзідэнта Беларусі. У гэты дзень ён меў працяглую размову з У.Жырыноўскім і іншымі высокапастаўленымі членамі ОДПР.

**СІМ**





Перадвыбарчая эканамічная платформа Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"

# НАРОДНЫ ФРОНТ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ,

## Асноўныя кірункі рэформаў для выхаду з крызісу*

### Крытычны стан эканомікі

Вытворчасьць валавага ўнутранага прадукту за 1994 год у параўнаньні з папярэднім скарацілася на 20%. Прадукцыя *прамысловасьці* зьменшылася на 19,3%. Пастаяннай тэндэнцыяй зьяўляецца рэзкае зьніжэньне аб'ёмаў вытворчасьці ў галоўных экспартных галінах. Так, у 1994 г. аб'ём вытворчасьці грузавых аўтамабіляў скараціўся на 31% трактараў - на 48%, металарэзных станкоў - на 39%.

Вытворчасьць *сельскай гаспадаркі* скарацілася на 14,1%. На 18% зьменшыўся выпуск каўбасных вырабаў, на 16% - масла. У параўнаньні з 1990 г. зьніжэньне ўраджайнасьці сельскагаспадарчых культураў у 1,5-2 разы (збожжавых з 36 да 23 ц/га, бульбы - з 182 да 90 ц/га), скарачэньне пасяўных плошчаў і вялікія страты пры захоўваньні прадукцыі прывялі да рэзкага пагаршэньня забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі.

У 1994 годзе на душу насельніцтва ў грамадзкім сектары выпрадукавана 600 кг збожжа, каля 600 кг бульбы, прыкладна 75 кг гародніны, менш за 44 кг садавіны. Яшчэ горшая сітуацыя ў жывёлагадоўлі. Пагалоўе буйной рагатай жывёлы зьменшылася на 1,7 млн. галоваў, сьвіньняў амаль на 1,2 млн. галоваў, авечак у 4 разы. З прычыны зьніжэньня прадукцыйнасьці жывёлы вытворчасьць малака і мяса ў разьліку на аднаго жыхара зьменшылася ў 2 разы і склала адпаведна 360 і 52 кг. У цэлым забясьпечанасьць насельніцтва асноўнымі прадуктамі харчаваньня вагалася ў межах 76-85%.

Аб'ём *капіталаўкладаў* у фактычных цэнах скараціўся за 1994 год (у параўнаньні з 1993 г.) на 25%. Капіталаўклады вытворчага прызначэньня за гэты перыяд скараціліся на 31%, невытворчага прызначэньня - на 27%, у тым ліку на будаўніча-мантажныя работы - на 28%. На 17% зьменшылася дзяржаўнае жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва жыльлёва-будаўнічымі кааператывамі - на 27%, а ў калгасах удвая. На пачатак бягучага года больш за 21 тысячу аб'ектаў знаходзяцца ў незавершаным будаўніцтве, 1800 - закансерваваныя.

Выпуск *тавараў народнага спажываньня* на гэты ж перыяд скараціўся на 16%, аб'ём платных паслугаў насельніцтву ў супастаўных цэнах - на 14%, увод у дзеяньне жылых дамоў - на 15%.

Зьмяняецца *структура грашовых даходаў* насельніцтва. Так, у чацьвёртым квартале 1994 года доля аплаты працы ў сямейных бюджэтах складала 37%, што значна ніжэй, чым у нашых суседзяў. Зьмяншэньне долі заработнай платы сьведчыць ня толькі пра аслабленьне матывацыі да працы, але і пра тое, што эканамічна актыўнае насельніцтва ня можа рэалізаваць свой патэнцыял на месцы асноўнай працы і вымушана дзьве трэці сямейнага бюджэту папаўняць у сьферы "ценявой" эканомікі. *Уклады насельніцтва* ў ашчадныя і камерцыйныя банкі склалі 104 млрд.рублёў, што ў доларавым эквіваленьце роўна 90 цэнтам у разьліку на аднаго жыхара краіны.

Пагоршыўся *фінансавы стан вытворчасьці*. Крэдытная (дэбіторская) запазычанасьць вытворцаў склала летась 19,4 трлн.рублёў. Камерцыйныя банкі амаль ня ўдзельнічаюць ва ўзнаўленчым працэсе прамысловасьці і сельскагаспадарчай вытворчасьці. Доўгатэрміновыя крэдыты склалі толькі 8,3% усяго аб'ёму крэдытаваньня.

Дэстабілізацыйным фатарам эканомікі на працягу года была інфляцыя. Намінальная заробная плата за 1994 год узрасла ў 15,8 разоў, а цэны на спажывецкія тавары ў 23,2 разы. У выніку рэальная заробная плата скарацілася да 68% ад леташняга ўзроўню. Спажывецкія цэны за студзень 1995 г. вырасьлі на 39,2%, у тым ліку на харчовыя тавары - на 40,7%, на нехарчовыя тавары - на 45,5%.

Расьце *беспрацоўе*. На канец 1994 года лік афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных перасягнуў 102 тыс. чалавек. Да таго ж, страты рабочага часу з-за прастояў склалі летась 25 мільёнаў чалавека-дзён або 137 тыс.гадавых рабочых месцаў. З улікам схаваных формаў, беспрацоўе дасягнула 25% ад усіх занятых.

Зьбядненьне народа абумовіла *скарачэньне насельніцтва* краіны. У 1994 годзе колькасьць народжаных зьменшылася на 4% і склала 113 тыс., а лік памёрлых павялічыўся на 0,7% да 129 тыс.чалавек і перавысіў колькасьць народжаных на 16 тыс.чалавек.

Паводле прагнозу экспертаў, *спад вытворчасьці* сёлета дасягне 15-20% ад узроўню 1994 г.

*Прадпрымальніцтва* надалей застаецца "іншародным целам" для беларускай эканомікі. Перадусім надалей захоўваецца нераўнапраўнае становішча недзяржаўных гаспадарчых суб'ектаў.

На станаўленьне і разьвіцьцё прадпрымальніцтва адмоўна ўплывае *нявырашанасьць праблемы прыватнай уласнасьці*. Практычна ўся ўласнасьць належыць дзяржаве.

Інфляцыя вядзе да нявызначанасьці сапраўднага фінансавага стану прадпрымальніка. Праблема спараджае надзвычайны *падаткавы прэс*, частая зьмена законаў і нарматыўных актаў, недакладнасьць інструкцыяў, паўсюдная карумпаванасьць чыноўніцтва.

*Умовы для станаўленьня прадпрымальніцтва ў Беларусі можна ацаніць як надзвычай неспрыяльныя.*

**Адсутнасьць рэформаў; імкненьне захаваць загадна-адміністрацыйную сістэму кіраваньня як пры папярэдняй адміністрацыі В.Кебіча, так і пры сучасным кіраўніцтве А.Лукашэнкі абумоўліваюць паглыбленьне і пашырэньне эканамічнага крызісу.**

### Прычына крызісу эканомікі

Дзяржаўная адміністрацыя засьведчыла *непатрыятызм і непрафесіяналізм*. Прэзідэнт і ягоны ўрад, а таксама залежная ад іх большасьць Вярхоўнага Савету сьвядома не жадаюць праводзіць самастойную эканамічную палітыку незалежнай дзяржавы ў інтарэсах яе народу.

Адсутнічаюць мэта і праграма пераводу народнай гаспадаркі на іншыя прынцыпы і спосабы вытворчасьці, заснаваныя на свабоднай рынкавай эканоміцы.

У краіне не вызначаныя і *не адрэгуляваныя базавыя дачыненьні ўласнасьці*. Не разьдзеленыя функцыі валоданьня, кіраваньня і карыстаньня маёмасьцю. Пры гэтым чалавек аказаўся адчужаным ад уласнасьці і ад вынікаў сваёй працы.

Структура вытворчасьці не прыстасаваная да ўмоваў краіны. Прадукцыя надзвычай энерга- і матэрыялаёмістая.

Метады адміністрацыйнага рэгуляваньня эканамічнай дзейнасьці засьведчылі сваю неэфектыўнсьць. Гэта выразілася:

- у пасьлядоўным *разбурэньні грашовай і крэдытна-фінансавай сістэмы;*
- у *недасканаласьці падаткавай сістэмы*, якая не заахвочвае стваральную дзейнасьць і не спрыяе падвышэньню фондааддачы сродкаў вытворчасьці;
- у *разбуральнай цэнавай палітыцы*, якая паразітуе на вытворцах (асабліва сельскагаспадарчай прадукцыі);
- у *недасканаласьці бюджэтнай палітыкі*, якая не дала нашай краіне магчымасьці выкарыстоўваць выгаднае геаграфічнае становішча і атрымліваць дадатковы даход ад платы за траньзіт каля 2 млрд.долараў у год (яшчэ адзін наш дадатковы бюджэт);
- у *недасканаласьці інвестыцыйнай і амартызацыйнай палітыкі*, якая прывяла да таго, што прадукцыйныя сілы ўжо ня здольныя забясьпечыць пашыранае ўзнаўленьне асноўнага і абаротнага капіталу. Фізічная зношанасьць асноўных фондаў большасьці галінаў вытворчасьці перасягнула 50%, а на асобных прадпрыемствах - ад 70% і больш пры аднаўляльнасьці 2%. Маральная ж зношанасьць асноўных вытворчых фондаў амаль ва ўсіх галінах перасягнула 100%;
- у *адсутнасьці маральнай палітыкі* ў прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, у недасканаласьці і неэфектыўнасьці формаў прыватызацыі, у бескантрольным раскраданьні дзяржаўных сродкаў і маёмасьці.

*Зьнешнеэканамічная дзейнасьць* стратная: даходы ад яе не перавышаюць выдаткаваных на яе сродкаў. Адсутнічае дзяржаўны кантроль за ўцечкай капіталу, якая стала хранічнай для эканомікі краіны.

### Выйсьце з крызісу

Выйсьце з крызісу можа быць пасьпяховым толькі пры дакладным вызначэньні мэтаў і прынцыпаў, з якіх павінна зыходзіць эканамічная палітыка краіны. Яна павінна арыентавацца на *ўзаемавыгадныя эканамічныя дачыненьні з усімі партнёрамі* - як на ўсходзе, так і на захадзе, як на поўдні, так і на поўначы. Гэта - адна з умоваў рэалізацыі на практыцы незалежнасьці краіны.

Незалежная палітыка мае на ўвазе распрацоўку і ажыцьцяўленьне канцэпцыі нацыянальнай бясьпекі краіны. Яна павінна прадугледжваць як зьнешнюю, так і ўнутраную бясьпеку. Унутраная бясьпека неадрыўная ад пасьпяховага правядзеньня рэформаў. Для гэтага неабходныя:

- кардынальная рэформа палітычнай сістэмы і сістэмы органаў выканаўчай улады;
- спрашчэньне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу дзяржавы і рэформы сістэмы мясцовага самакіраваньня;
- набліжэньне заканадаўства да ўзроўню краін, якія дасягнулі найбольшых посьпехаў у сацыяльна-эканамічным разьвіцьці;
- максімальнае выкарыстаньне вытворчага, эканамічнага, навукова-тэхнічнага патэнцыялу і геапалітычнага становішча краіны;
- рэструктурызацыя фінансава-бюджэтнай сістэмы, якая прадугледжвае ўвод нацыянальнай валюты, разьдзяленьне дзяржаўнага бюджэту і бюджэтаў мясцовых узроўняў улады, зьмену метадалогіі фарміраваньня бюджэтаў у бок збалансаваньня расходнай і даходнай частак;
- фармаваньне новай падаткавай сістэмы і зьмена падаткавай палітыкі з фіскальнай на стымуляцыйную;
- разьвіцьцё банкаўскага заканадаўства і банкаўскай сістэмы; падвышэньне статусу Нацыянальнага банку да самастойнага суб'екта, незалежнага ад выканаўчай і заканадаўчай улады;
- паскоранае стварэньне інфраструктуры рынкаў;
- дзяржаўнае рэгуляваньне эканомікі на аснове эканамічных рычагоў узьдзеяньня і шляхам перанясеньня акцэнту з адміністрацыйнага планаваньня на індыкатыўнае;
- адмова ад якіх бы ні было спробаў аб'яднаньня з грашовымі сістэмамі іншых дзяржаў;
- правядзеньне структурнай і інвестыцыйнай палітыкі, скіраванай на зьмяншэньне энерга- і матэрыялаёмістасьці з арыентацыяй на платаздольныя рынкі збыту;
- рашучыя захады для паскарэньня працэсу прыватызацыі;
- рацыянальная зямельная і аграрная рэформа ў інтарэсах грамадзян краіны;
- фармаваньне самастойнай навукова-тэхнічнай палітыкі, якое мае на ўвазе пераарыентацыю як прыкладной, так і фундаментальнай навукі пераважна ў бок грамадзкіх галін вытворчасьці, якія маюць платаздольны попыт;
- актыўная палітыка сацыяльнай абароны, якая ўключае стварэньне новых рацыянальных рабочых месцаў для працаздольных і адрасную сацыяльную дапамогу з боку дзяржавы для пеньсіянераў, інвалідаў і іншых сацыяльна неабароненых катэгорый насельніцтва;
- рэформы пеньсійнай справы, аховы здароўя, сярэдняй, сярэдняй сьпецыяльнай і вышэйшай адукацыі, скіраваныя на персаніфікацыю інтарэсаў канкрэтнага чалавека і зьмяншэньне ўплыву на яго з боку бюракратыі;
- рэформа Узброеных Сілаў, органаў унутраных спраў і органаў бясьпекі, скіраваныя на забесьпячэньне інтарэсаў незалежнай дзяржавы;
- эфектыўная зьнешнеэканамічная палітыка, скіраваная як на захаваньне традыцыйных, так і на здабыцьцё і пашырэньне новых рынкаў.

### Нацыянальная валюта

Пагаршэньне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі прыводзіць да неабходнасьці ўвядзеньня нацыянальнай валюты - радыкальнага і адзіна магчымага сродку санацыі нацыянальных фінансаў. Пры гэтым часу на стабілізацыю цяперашняга законнага платнага сродку - беларускага рубля - ужо не засталося. Ліміт часу, дадзенага нам гісторыяй, бяздарна згублены ўрадам В.Кебіча і адміністрацыяй А.Лукашэнкі. Застаецца класічны эрхардаўскі варыянт грашовай рэформы як аднамомантнай акцыі паводле прынцыпу "валютнага камітэту".

У якасьці валюты-арыенціра найлепш можа выступіць эўрапейская грашовая адзінка - ЭКЮ. Мінімальныя ваганьні гэтай валюты дазваляюць праводзіць больш дакладную макраэканамічную палітыку і мінімізаваць магчымы вонкавы націск на нацыянальную фінансавую палітыку.

### Сацыяльная абарона насельніцтва

Новая бюджэтная палітыка дазволіць праводзіць актыўную і адрасную сацыяльную палітыку, скіраваную на падтрымку неабароненых катэгорыяў насельніцтва за кошт сродкаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў, пры агульным кірунку на стварэньне новых рацыянальных працоўных месцаў для працаздольных.

Будзе ажыцьцяўляцца новая палітыка заробнай платы і даходаў для работнікаў дзяржаўнага сектару эканомікі і бюджэтных установаў, заснаваная на прынцыпе роўнай аплаты пры аднолькавай кваліфікацыі, якасьці і інтэнсіўнасьці працы.

Дзяржаўны доўг, працэдуры яго фармаваньня і крыніцы пагашэньня павінны быць заканадаўча афармленыя. На дзяржаўны доўг будуць аднесеныя кампенсацыі ўкладаў насельніцтва, жыльлёва-будаўнічых кааператываў, пеньсійнага фонду.

Пагашэньне запазычанасьці дзяржавы перад грамадзянамі будзе адбывацца за кошт сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, а таксама за кошт нерухомай маёмасьці.

Дзяржава будзе праводзіць дзейсную дэмаграфічную палітыку, скіраваную на падтрымку жанчын, дзяцей, маладых сем'яў. Жыльлёвая палітыка будзе зарыентаваная пераважна на будаўніцтва індывідуальнага жыльля з выкарыстаньнем дзяржаўных сродкаў для стварэньня інжынернай інфраструктуры. Да забесьпячэньня фінансавых магчымасьцяў такога будаўніцтва будуць створаныя іпатэчныя фінансавыя інстытуты.

Будзе ажыцьцяўляцца фінансаваньне адраджэньня культуры, разьвіцьцё навукі, адукацыі, аховы здароўя.

Міграцыйная палітыка будзе весьціся выключна ў інтарэсах грамадзян нашай дзяржавы.

### Экалогія

**Наступствы Чарнобыля - рэальнасьць нашага жыцьця на доўгі час,** таму дзейнасьць дзяржаўных органаў будзе будавацца з улікам неабходнасьці аховы здароўя людзей.

У заканадаўства краіны будуць уведзеныя палажэньні, скіраваныя на дакладнае выкананьне нормаў экалагічнай бясьпекі.

Будзе створана надзейная сістэма экалагічнага кантролю за станам навакольнага асяроддзя і прадуктаў харчаваньня. Па ўсёй тэрыторыі Беларусі будзе праведзены маніторынг на забруджанасьць радыёнуклідамі, цяжкімі металамі, рэштковымі пестыцыдамі і гербіцыдамі, адыходамі хімічнай вытворчасьці. Будуць зьнятыя пошліны на ўвоз у Беларусь экалагічна чыстых прадуктаў.

---

*** Прапануе Грамадзкі (ценявы) Кабінет Міністраў Беларускага Народнага Фронту.**
**Платформу распрацавалі: А.Станкевіч, У.Тарасаў, І.Нікітчанка, У.Кулажанка, Л.Зданевіч, С.Гусак, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, В.Масквіч, С.Папкоў.**
**Кіраўнік Кабінету Міністраў З.Пазьняк, прэм'ер-міністр Кабінету У.Заблоцкі.**

